ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 78(5260)
Субота,
14 ліпеня
2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Пра фортачкі, школьную мэблю і чырвоную рыбіну

### Пра фортачкі...

Не кожнай школе выпадае такое шчасце — дачакацца капітальнага рамонту. Нашай пашанцавала.

Больш не будзем пры кожным парыве ветру чуць трывожнае бразгатанне шкла ў трухлявых рамах. Не будзем ламаць галаву над уцяпленнем кабінетаў увосень, калі скразнякі гуляюць па класах: перакошаныя вокны, што ні рабі, на шпінгалеты не зачыняюцца. Цяпер у нас новенькія аконныя блокі, усё спраўна прыгнана, ніякіх шчылін. Сонца грае на вымытых настаўніцкімі рукамі шыбах.

Толькі цяпер чамусьці твары калег не свецяцца радасцю. Аказваецца, стваральнікі гэтай цудоўнай сталяркі неяк выпусцілі з-пад увагі, што памяшканне, у якім займаюцца дзеці, час ад часу трэба праветрываць.

Раней гэты няхітры працэс здзяйсняўся з дапамогай фрамугі: пацягнеш за вяровачку — і над галавой з бразгаценнем раскрываецца адтуліна. Страшнавата і неэстэтычна. У новым праекце вокнаў для школы ад такога дапатопнага спосабу адмовіліся. Але і іншага не прыдумалі. Не, недзе там, пад самай столлю, фортачкі фармальна існуюць. Толькі вось адчыняюцца яны спецыяльным ключом-ручкай, які ўстаўляецца ў шчыліну на вышыні амаль трох метраў. Канешне, калі-небудзь, пры адпаведнай трэніроўцы, набраўшыся смеласці, з ліхім запевам "не кочегары мы, не плотники" настаўнік можа паспрабаваць сягнуць да гэтай высокай мэты, тым больш што чароўнымі ключамі загадчык гаспадаркі ўсіх нас шчодра забяспечыў. Але выконваць смяротны нумар на кожным перапынку — прабачце!

Праблема вырашаецца проста: карыстаючыся тымі ж ключамі-ручкамі, мы, як толькі ў кабінеце становіцца задушліва, расчыняем самі вокны. Іх ніжні край усяго ў шасцідзесяці сантыметрах ад падлогі, крыху ніжэй дзіцячых каленак... Але ж школьнае акенца — не фортачка: масіраваная падача занадта свежага паветра — і вось вам прастуды, ангіны, бранхіты.

Нехта ж гэты цуд сталярнага мастацтва праектаваў! Нехта ж вырашыў, што з пункту гледжання санітарных норм і бяспекі выраб — якраз прыдатны для дзіцячай навучальнай установы. Нейкая ж камісія прымала будынак пасля капрамонту і, напэўна, любавалася прыгожымі фіранкамі на чысцюткіх вокнах...

Якім яшчэ школам так "пашанцавала" з рамамі асобай канструкцыі, не ведаю, але наўрад ці наш выпадак унікальны: аконныя блокі — прадукцыя масавая.

### школьную мэблю...

Калі стваральнікі недасягальных дэкаратыўных фортачак мне, на жаль, невядомы, то ўмельцы-вытворцы школьнай мэблі — вось яны. Дзяржаўнае навукова-вытворчае прадпрыемства "Прагрэс" рэкламуе свой тавар на старонках "Настаўніцкай". У магазіне вучэбна-наглядных дапаможнікаў "Глобус" прадстаўлены ўзоры рознакаліберных парт і сталоў. Прыгожая мэбля, нічога не скажаш. Калі ў класы дзяцей не пускаць, сто гадоў, напэўна, можа прастаяць. Але куды ад рэальнасці падзенешся? Першыя драпіны на святлюткім, злёгку лакіраваным шпоне выяўляюцца яшчэ да таго, як да паверхні новых сталоў дакранаецца таленавітая рука дзіцяці. А ўжо як пасля двух-трох вучэбных тыдняў!..

Адміністрацыя за даўгавечнасць школьнай мэблі змагаецца пераважна слоўнымі метадамі — ад заклікаў да загадаў, настаўнік жа — практычнымі. Ніякія мыйныя ды іншыя сродкі не дапамогуць ліквідаваць на сталах сляды шарыкавай ручкі. Толькі наждак — вялікі, а потым дробны: для шліфоўкі. Заключная аперацыя — пакрыццё лакам у два ці тры слаі. Парты пасля падобнай апрацоўкі выглядаюць як дэсантны камуфляж для пустыні. І трымаецца гэтая "прыгажосць", нават калі прысвяціць яе ахове ўвесь вучэбны час, да першай выпадковай кляксы. А там — пачынай па новым крузе.

Між іншым, "Прагрэс" выпускае і сталы з лёгкамыйным пластыкавым пакрыццём. Але прызначаны яны толькі для кабінетаў хіміі і школьных сталовак. Напэўна, лічыцца, што толькі там бліскучай паверхні стала можа пагражаць небяспека.

Калі не сама фірма "Прагрэс", дык, магчыма, нехта ў Міністэрстве адукацыі патурбуецца, каб парты можна было прывесці ў належны стан лёгкім рухам намыленай анучы, а не абдзіраючы наждаком пальцы да крыві?

### і чырвоную рыбіну...

Зрэшты, хіба фортачкі і парты ў школе самае важнае? Галоўнае, каб дзеці нашы выходзілі ў жыццё людзьмі выхаванымі і адукаванымі. Ну, пра крытэрыі і ўзровень выхаванасці спрачацца можна доўга, а вось адукаванасць, як вядома, правяраецца на экзаменах. Тут клопат пра выпускнікоў — каб іх юныя галовы пры падрыхтоўцы не перагрэліся і нервовая вытрымка ў самы апошні момант не падвяла — ажыццяўляецца на сапраўдным дзяржаўным узроўні. Пад лозунгамі гуманізацыі і дэмакратызацыі адукацыі.

Я не пра камерсантаў, якія завальваюць рынак усялякімі "кароткімі курсамі" і "ўзорнымі сачыненнямі". Калі ёсць попыт на шпаргалкі — будзе і прапанова. Але Міністэрству ж адукацыі навошта з году ў год масавымі накладамі выдаваць зборнікі экзаменацыйных заданняў па матэматыцы, беларускай і рускай мовах?

Каб дзеці на працягу года перарашалі ўсе задачкі і перапісалі ўсе дыктоўкі — і тады не страшна будзе на экзамен ісці? Хто, маючы ў руках падараваны родным міністэрствам чароўны ключык, устрымаецца перад спакусай скарыстацца ім у патрэбны момант?

Запаветная кніжачка з тэкстам дыктоўкі ці пераказу (а да задачнікаў прадаюцца і "рашэнні") проста кладзецца на калені. Ці (пасля таго як па тэлебачанні назавуць тэму) са зборніка вырываюцца адпаведныя старонкі... Так, бадай, зручней.

Ну і што, скажыце, акрамя спрытнасці дзіцячых рук, такі экзамен пацвярджае і дэманструе? Хіба што поўную бессэнсоўнасць яго правядзення. Спытаеце: куды настаўнік глядзіць? А чаму ён абавязаны выконваць на экзамене ці то ролю турэмнага наглядчыка, ці — мытніка? Добрая адзнака трэба ўсім: вучням, іх бацькам, міністэрству. І толькі настаўнік, як ласось на нераст, павінен ісці супраць цячэння? Дык жа жыццёвы шлях чырвонай рыбіны нераставаннем і завяршаецца. А педагогу зноў — "встречай, учи и снова расставайся..."

Настаўніка б паберагчы. Ці хоць бы не ствараць штучна цяжкасці для іх далейшага гераічнага пераадолення.

**Любоў РЭЙЗІНА,**
**настаўніца гісторыі.**

Міжнародны адукацыйны праект

## Куды паехаць за натхненнем?

***У апошнія дні мая ў Крыме ў Міжнародным дзіцячым цэнтры "Артэк" адбыўся юбілейны Міжнародны конкурс педагогаў. За пяць гадоў у ім прыняло ўдзел больш за 200 настаўнікаў з Украіны, Расіі, Беларусі. Конкурс у "Артэку" дапамагае зацвердзіцца ў сваім пошуку педагогам самабытным, таленавітым, неабыякавым. Мэты ў конкурса разнастайныя.***

***Гэта і выяўленні перадавых педагагічных тэхналогій, арыгінальных методык выкладання, і прадстаўленне эксперыментальных праграм, новых вучэбных курсаў. Але галоўнае — праслаўленне педагога-творцы.***

***Праграма конкурсу была разнастайнай — выставы, прэзентацыі, канферэнцыя, урокі, лекцыі. Сёння мы раскажам вам пра тое, што адбывалася ў "Артэку" падчас фіналу Міжнароднага конкурсу педагогаў.***

Вясна 2001 года стала для мяне незвычайнай. Чым жа яна адрознівалася ад папярэдняй? Тым, што мінская педагагічная гімназія № 3, у якой я працую псіхолагам і настаўнікам псіхалогіі, атрымала запрашэнне прыняць удзел у рабоце фіналу юбілейнага Міжнароднага конкурсу педагогаў у Артэку, прадэманстраваць набыткі гімназіі на выставе інавацыйнага педагагічнага вопыту "Бесперапынная адукацыя: ад ідэі да ўкаранення" і далучыцца да работы навукова-практычнай канферэнцыі "Дыялог адукацыйных сістэм у сучасным свеце. Бесперапынная адукацыя: праблемы падрыхтоўкі спецыялістаў".

Наша навучальная ўстанова мае дзесяцігадовы вопыт інавацыйнай дзейнасці, і нам ёсць чым падзяліцца з міжнароднай педагагічнай грамадскасцю. Мне і Інесе Леанідаўне Бондар, намесніку дырэктара па вучэбна-метадычнай рабоце, пашчасціла прадстаўляць гімназію на такім адказным конкурсе. Інеса Леанідаўна рыхтавала матэрыял па тэме "Узаемадзеянне інавацыйных тэхналогій", я — "Сістэма даінстытуцкай падрыхтоўкі ў мінскай педагагічнай гімназіі № 3".

Нашы паведамленні зацікавілі калег, бо тэхналогіі Дальтон-план, дыстанцыйнага навучання, метад-праектаў, інтэрактыўныя метады заахвочваюць гімназіста авалодваць навыкамі самастойнай працы, навыкамі пошуку інфармацыі, вучаць ацэньваць свае наяўныя і патэнцыяльныя магчымасці, садзейнічаюць асобаснаму росту, гэта значыць, вырашаюць задачы навучання і выхавання.

Асаблівым гонарам нашай гімназіі з'яўляецца не толькі выкарыстанне новых тэхналогій, але і сістэма даінстытуцкай падрыхтоўкі вучняў, якая складаецца з псіхолага-педагагічных дысцыплін, прадугледжаных для вывучэння ў 5-11 класах, практыкумаў па педагогіцы і псіхалогіі (9-11 кл.), курса "Філасофія адукацыі". Дзякуючы даінстытуцкай падрыхтоўцы выпускнікі гімназіі цудоўна падрыхтаваны да навучання ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М.Танка і іншых вышэйшых навучальных установах, маюць высокую эрудыцыю не толькі па базавых школьных дысцыплінах, але і па нетрадыцыйных: педагогіцы і псіхалогіі. Гімназісты ўпэўнена карыстаюцца прафесійнымі тэрмінамі, могуць ацэньваць асаблівасці развіцця сваёй асобы, заўважаюць змены ва ўнутраным свеце чалавека, валодаюць уменнямі культурна-псіхалагічнага характару — самапазнання, самаарганізацыі, самарэгуляцыі, камунікатыўнымі і сацыяльна-рэфлексіўнымі. Падлеткі ўмела карыстаюцца псіхолага-педагагічнымі ведамі ў практычнай дзейнасці.

Многія навучальныя ўстановы ставяць перад сабой падобныя задачы, жадаючы бачыць у сваіх выпускнікоў названыя якасці. Таму наш станоўчы вопыт быў ацэнены і натхніў калег з муніцыпальнай установы сярэдняй (поўнай) агульнай адукацыі "Ліцэй № 2" Астрахані (Расія), якая таксама мае педагагічную накіраванасць, агульнаадукацыйнага вучэбна-выхаваўчага комплексу школы-ліцэя № 41 "Адкрыты касмічны ліцэй" Сімферопаля (Крым, Украіна), Запарожскага класічнага ліцэя пры Запарожскім дзяржаўным універсітэце ў Запарожжы (Украіна), цэнтра дадатковай адукацыі "Еўразія" Алма-Аты (Казахстан).

Нам таксама было чаму павучыцца і ў Міжнароднага дзіцячага цэнтра "Артэк", і ў калег-гасцей. Педагогі з Астрахані так ярка расказвалі пра мерапрыемства, якое праводзіцца на пачатку навучальнага года на прыродзе, амаль як турысцкі злёт, але з педагагічным зместам, фарміраваннем планаў на наступны навучальны год, і называецца весела і азартна: "Старт-Збор". Нашы гімназісты, напэўна, атрымаюць свой першы старт-збор у верасні гэтага года.

Школа новых тэхналогій Кіраваграда (Украіна) уразіла нас сваёй вучэбна-метадычнай літаратурай, дадаткамі да падручнікаў, камп'ютэрнымі контурнымі картамі. Усе матэрыялы — прадуманыя, эфектыўныя, выкананыя на высокім тэхнічным узроўні. Мы па-добраму пазайздросцілі кіраваградцам і запарожцам, іх тэхнічным магчымасцям па выданні вучэбна-метадычнай літаратуры, дадаткаў, а галоўнае — навуковых і мастацкіх твораў дзяцей. На нашу думку, надышоў час мець гімназіям асобы фонд або графу расходаў на выданне лепшых творчых работ настаўнікаў і гімназістаў.

Цікавым таксама падаўся вопыт малдаўскіх калег з Кішынёва, НВА адукацыйнага цэнтра PRO DIDACTICA, якія прадставілі праграму "Развіццё курыкулуму", якая прадугледжвае вялікую свабоду настаўніка ў выбары зместу і метадаў навучання, яго высокую кваліфікацыю. Побач з нашымі выставачнымі матэрыяламі размяшчаліся яркія, адмысловыя стэнды прыватнай асноўнай школы Таліна "Залаты пелікан". Гэтая школа робіць свае першыя крокі, і галоўнай задачай яе ўдзелу ў міжнароднай выставе было пераняць каштоўны вопыт іншых і знайсці свой шлях развіцця.

Да кіеўскай дзіцячай школы мастацтваў № 2 імя М.І.Верыкаўскага ў нас сфарміравалася асаблівае стаўленне. Творчая атмасфера, пошук новых сродкаў і форм навучання, погляд на ролю настаўніка ў гэтым працэсе, які, на нашу агульную думку, павінен быць гуманным, дэмакратычным, справядлівым, эмпатычным, мець пазітыўнае самаўспрыняцце, камунікабельным, гнуткім, ставіцца да вучняў з павагай і высока ацэньваць асобу кожнага, нас аб'ядноўвае. Наталляй Валодзінай-Панчанка, настаўніцкай школы мастацтваў, была прадстаўлена вельмі цікавая аўтарская праграма "Камп'ютэр разам з алоўкам і пэндзлем". Творчая атмасфера, спрыяльны псіхалагічны мікраклімат, выкарыстанне музыкі, арыгінальных інструментаў для малявання, незвычайных відаў дзейнасці, спалучэнне розных тэхнік малявання — усё гэта нараджае і унікальныя ўрокі настаўніцы, і незвычайныя малюнкі яе выхаванцаў.

Выстаўка і навукова-практычная канферэнцыя былі цудоўнымі, цікавымі, павучальнымі. Але ўсё ж не яны галоўныя героі Міжнароднага конкурсу педагогаў у Артэку. Галоўныя — педагогі-канкурсанты, удзельнікі фіналу. Іх урокі, майстэрства, самабытнасць, азарт, творчасць нас натхнялі і ўражвалі. Мы бачылі іх напружаную працу, хваляванне, вынікі, шчасце перамогі і адчувалі радасць і гонар за гэтых людзей, за сваю прафесію.

Конкурс цудоўна арганізаваны, праходзіць у маляўнічых, непаўторных па прыгажосці мясцінах Крыма. Звышпаважлівае стаўленне да працы настаўніка, унікальныя прафесійныя і чалавечыя ўзаеміны, сур'ёзныя прэміі і прызы, вытанчанасць і прыгажосць усіх цырымоній конкурсу, незвычайная гасціннасць артэкаўцаў — усё гэта робіць Міжнародны конкурс у Артэку неверагодна прыцягальным і папулярным.

**Святлана РАДЗЬКОВА.**

Лета-2001

## Хто на што здатны

***Адным з асноўных накірункаў дзейнасці пазашкольных устаноў з'яўляецца арганізацыя змястоўнага вольнага часу дзяцей і падлеткаў. Асабліва актуальна гэта ўлетку.***

***Але давайце паглядзім на адпачынак вачыма саміх дзяцей, якія наведваюць полацкі раённы Дом творчасці.***

**Ніна Шалкоўская, Дыяна Казлова** — сяброўкі, закончылі пяты клас Ветрынскай сярэдняй школы:

— Два гады мы займаліся ў гуртку керамікі Дома дзіцячай творчасці (кіраўнік І.В.Гарбар). Вы пытаеце, што мы летам тут робім? Вучымся маляваць, ляпіць, канструяваць. Вы самі скажаце, што мы — малайцы. А каб вы пабачылі нашы лепшыя работы, вы б яшчэ не тое сказалі. Работы Тані Багдановіч "Сяброўкі-беларусачкі", Андрэя Вашчанкі "Дружная сям'я", калектыўная праца "Наша вёсачка — наша маленькая Радзіма" прадстаўлены на абласной выставе дэкаратыўна-прыкладной творчасці, а наш гурток керамікі атрымаў дыплом Міністэрства адукацыі. Нам тут цікава, бо гэта наш гурток, і наогул у Доме творчасці мы сябе добра адчуваем.

**Вераніка Агурцова, Света Спірковіч** — перайшлі ў пяты клас, займаюцца ў гуртку мяккай цацкі (другі год навучання) пад кіраўніцтвам Г.П.Віскуп:

— На працягу навучальнага года два разы на тыдзень мы прыходзілі ў Дом творчасці к 14.30. Нехта мог спазніцца, але толькі не мы, бо мы ў савеце гуртка. І думалі, вось закончыцца навучальны год — будзем адпачываць. Але прыйшлі канікулы, і мы зноў у Доме творчасці, бо прывыклі і ідзём туды, як да сябе дамоў. Вось цяпер увесь матэрыял расклалі акуратна па сваіх скрынках. Гэта зусім няпроста — падтрымліваць парадак у кабінеце, — але мы стараемся.

Нам бы хацелася расказаць пра адну з добрых традыцый нашага гуртка. На працягу некалькіх гадоў мы рыхтуем падарункі дашкольнікам з Ветрынскай школы-інтэрната. Вось і цяпер, у Дзень Дома творчасці, у школе-інтэрнаце наша Галіна Паўлаўна разам з Тамарай Бышчавай кожнаму дашкольніку падарылі мяккую цацку. Калі мы ведаем, што нашаму падарунку рады, гэта ўсё роўна, як бы мы самі атрымалі яго.

**Лена Пужэвіч** — вучаніца дзевятага класа з віцебскай школы:

— На працягу навучальнага года я займалася ў гуртку выяўленчага мастацтва Дома піянераў і школьнікаў Кастрычніцкага раёна Віцебска. Цяпер я гасцюю ў бабулі ў г.п.Ветрына. Лічу, што канікулы праводжу з карысцю. З аднаго боку — бабулі весялей і па гаспадарцы ёй дапамагаю, а з другога — займаюся ў вольны час у Доме творчасці ў Ірыны Вітальеўны, бо планую вучыцца ў мастацкай школе. Усе задаволены. Нават мой верны сабака Пушок, які кожны раз суправаджае мяне ў Дом творчасці і цярпліва сядзіць пад мальбертам, назіраючы, як мы малюем.

**Таня Валынец** — вучаніца сёмага класа Фарынаўскай сярэдняй школы, займаецца ў гуртку мяккай цацкі (кіраўнік Г.П.Віскуп):

— Наш гурток увесь чэрвень рыхтаваўся да свята Незалежнасці. Мы атрымалі заданне арганізаваць выставу дзіцячых работ. І каб вы толькі бачылі, як радаваліся дзеці нашай выставе. Яны падыходзілі да цацак з усіх бакоў, прысядалі і гладзілі іх, фатаграфаваліся з імі. У дадатак да ўсяго Дом творчасці выручыў больш 40 тысяч рублёў. За гэтыя грошы мы купім матэрыял для работы гурткоў.

**Саша Арол** — вучань восьмага класа Ветрынскай школы, удзельнік дзіцячага духавога аркестра:

— На працягу навучальнага года ў Доме творчасці працаваў дзіцячы духавы аркестр, у якім займаліся вучні Ветрынскай школы і Дзіма Андзілеўка са школы-інтэрната. Кіруе аркестрам ваенны музыкант А.М.Ардынскі — пагранічнік. Пагранічнікі — нашы шэфы. І вось цяпер у ліпені на базе в/ч 2034 РК БПСМ арганізуе ваенна-спартыўны летнік, і пяць нашых гуртკоўцаў паедуць туды адпачываць. У іх ліку і я. Здорава! Усе мы добра ведаем, што і аркестр, і летнік існуюць дзякуючы нашаму дырэктару Алe Леанідаўне Мураўёвай. І яна, і нашы бацькі хочуць, каб мы раслі адказнымі, добрымі, выхаванымі. Не заўсёды так атрымліваецца, але мы імкнёмся быць такімі.

**Лена Смаргун** — вучаніца дзевятага класа Ветрынскай школы (гурток арганізатараў вольнага часу "Вясёлка"):

— Хто два, а хто і больш гадоў займаецца ў гуртку "Вясёлка" (кіраўнік А.Л.Янчанка). Галоўнае тое, што мы планавалі пайсці ў чэрвені ў паход, і пайшлі. Не ў такі паход, калі школьная машына вязе рукзакі і ўсё астатняе, а ў сапраўдны. Мы ведалі, што поспех напрамую залежыць ад падрыхтоўкі, і рыхтаваліся да паходу загадзя: і спіс неабходных для вандроўкі рэчаў склалі, і канкрэтныя даручэнні атрымалі, і самі навучыліся ставіць палатку.

**Іра Аўласенка:**

— Здаецца, усё спланавалі, але не абышлося і без прыгод: адна мама забылася пакласці палонік, каб разліваць суп. У паходзе мы усе разам былі цэлыя два дні і ноч. І няхай нас ледзь не заелі камары, хтосьці не вельмі хацеў мыць посуд, цяжка было дзяжурыць ля вогнішча, бо ішоў дождж, але душа спявала. І першае пытанне, якое мы задалі нашаму кіраўніку пасля вяртання ў Дом творчасці — калі пойдзем зноў?

**Насця Караткевіч, Лена Іванова, Віка Лісава** (Віка жыве ў школе-інтэрнаце):

— Самае лепшае свята — паход: цікава, карысна і як на далоні бачна, хто да чаго здатны. Здорава!

...Справядліва заўважана, што няма праблемы вольнага часу, а ёсць праблема выхавання гарманічна развітай асобы. Усё, альбо амаль усё залежыць ад таго, хто працуе з дзецьмі.

Дырэктар Дома творчасці А.Мураўёва заўсёды паўтарае, што іх установе шанцуе на добрых людзей. А я лічу, што дзецям шанцуе, бо ў іх ёсць такі Дом творчасці.

**Вера КАТУШОНАК.**
Полацкі раён.

Алімпіяды

## Мы былі першымі!

***Як вядома, 2001 год у Еўропе абвешчаны годам моў. 25 чэрвеня ў Маскве ў актавай зале Дзяржаўнага інстытута рускай мовы імя Пушкіна сабраліся юнакі і дзяўчаты, якія гавораць на трыццаці сямі мовах. Усе яны з'ехаліся ў расійскую сталіцу з 41 краіны, у тым ліку з Егіпта, Індыі, Малі, Перу і нават з ПАР, каб прыняць удзел у Х міжнароднай алімпіядзе школьнікаў па рускай мове.***

Міжнародная асацыяцыя выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры (МАВРМЛ) праводзіць гэтыя алімпіяды з 1972 года. Самаму малодшаму з тых, хто прымаў удзел у самай першай алімпіядзе, цяпер 40 гадоў. Дарэчы, "ветэраны" алімпіяд таксама прыйшлі павітаць новае пакаленне "алімпійцаў", такіх розных, такіх непадобных адзін да другога. Але ўсіх іх аб'ядноўвала любоў да рускай мовы, імкненне да ўзаемін, дружбы і супрацоўніцтва.

З часу першай алімпіяды кола краін-удзельніц прыкметна пашырылася. І сёлета на яе ўпершыню былі запрошаны трое старшакласнікаў з Беларусі — пераможцаў рэспубліканскай алімпіяды — Каця Хальпукова, Павел Ламака і я, аўтар гэтых радкоў. Наша каманда была вельмі маленькай (у параўнанні, напрыклад, з нямецкай, якую склала 20 удзельнікаў), але галоўнае, што пачатак пакладзены!

На ўрачыстым адкрыцці Алімпіяды нас віталі Прэзідэнт МАВРМЛ В.Г.Кастамараў, намеснік міністра замежных моў Расійскай федэрацыі В.Д.Срэдзін і многія іншыя. Людміла Аляксандраўна Пуціна — першая лэдзі краіны — прыехала асабіста павіншаваць удзельнікаў Алімпіяды. Поспехаў усім жадалі і маскоўскія школьнікі, і кіраўнікі дэлегацый, і самі ўдзельнікі. Запомніліся словы В.Г.Кастамарава: "Вы ўсе — будучыня рускай мовы ў вашых краінах". І сапраўды, за гэтымі таленавітымі падлеткамі — будучыня, прычым не толькі рускай мовы, але і іх родных культур.

А пакуль удзельнікаў чакала сур'ёзнае выпрабаванне ў ведах: тры нялёгкія экзамены. Першы — па краіназнаўстве, дзе яны павінны былі прадэманстраваць не толькі ўменне свабодна гаварыць па-руску, але і веданне культуры і гісторыі Расіі.

Другі конкурс "Вусная мова, чытанне". Тут удзельнікам прапанавалі тры заданні: дыялог са спецыяльна падрыхтаванымі маскоўскімі школьнікамі на зададзеную тэму, чытанне на памяць, пераказ і аналіз прапанавага тэксту. Прычым ацэньваліся не толькі слоўнікавы запас, але і веданне моўнага этыкету, свабода ва ўзаемінах, нязмушанасць, артыстызм.

Трэці конкурс — пісьмовая мова — праводзіўся па жаданні ўдзельніка. Тыя, хто спадзяваўся атрымаць некалькі дадатковых балаў, маглі пісаць (на выбар!) сачыненне, пераказ ці адказ на пісьмо.

У адпаведнасці з узростам і ўзроўнем валодання мовай усе ўдзельнікі (а іх было каля трохсот) былі падзелены на восем груп.

Больш за ўсё ў арганізацыі Алімпіяды мяне ўразілі яе альтэрнатыўнасць і дэмакрытычнасць, пастаянная магчымасць выбару. Форма правядзення любога з конкурсаў залежала ад жадання самога ўдзельніка.

Дарэчы, такімі ж дэмакратычнымі і альтэрнатыўнымі былі і харчаванне ў сталоўцы інстытута, і культурная праграма, якая падалася вельмі насычанай і цікавай: выставы, кінафільмы, дыскатэкі, экскурсіі...

Мы праехалі на аўтобусе па Маскве, пабывалі на Вараб'ёвых гарах і на мосце Багратыёна, пабачылі Стэлу на Паклоннай гары і Трыумфальную арку, Крамлёўскія вежы і помнік Пятру І. Шкада толькі, што ў храм Хрыста Збавіцеля нас не прапусціў малады чалавек унушальнага выгляду са службы аховы храма. Затое мы былі на Саборнай плошчы Крамля, наведалі старадаўнія саборы. І, вядома ж, сапраўдным святам для ўсіх быў Вялікі маскоўскі цырк.

Нарэшце, надышоў самы доўгачаканы і ўрачысты момант — падвядзенне вынікаў. На маю думку, арганізатары Алімпіяды прынялі мудрае рашэнне: пераможцамі аказаліся ўсе. Тыя, каму не дасталіся залатыя і срэбныя медалі, сталі бронзавымі прызёрамі. А шасцёра ўдзельнікаў, якія асабліва вызначыліся, атрымалі стыпендыі Міністэрства адукацыі для паступлення ў любую ВНУ Расіі на любую спецыяльнасць. Гэта права дзейнічае на працягу трох гадоў да наступнай алімпіяды.

А потым — урачыстае закрыццё Алімпіяды, і зноў — словы ўдзячнасці, віншаванні. Дарэчы, журы заснавала спецыяльныя прызы для тых, хто вызначыўся ў асобных конкурсах. Спецыяльны прыз атрымала і самая малодшая ўдзельніца — дванаццацігадовая Джамана з Егіпта. Не забыліся павіншаваць і тых, хто ў гэтыя дні адзначаў свой дзень нараджэння.

А ўвечары ўдзельнікі змаглі прадставіць сваю краіну на фінальным канцэрце, дзе мы ўсе спявалі, танцавалі і жадалі адзін аднаму шчасця. Дарэчы, усім запомнілася кранальнае выкананне "Купалінкі" акапэла і полька беларускай каманды!

На жаль, усё добрае вельмі хутка заканчваецца. Вось і нашы "неверагодныя прыгоды беларусаў у Расіі" падышлі да завяршэння. Канешне, хацелася дадому, але было вельмі сумна развітвацца з Масквой і новымі сябрамі. Спадзяюся, гэтая дружба будзе доўгай і моцнай. Памятаеце, як пяюць у старой песні: "Друга я никогда не забуду, если с ним подружился в Москве!"

Каманда Беларусі вярталася дадому не з пустымі рукамі: мы везлі на радзіму два залатыя і адзін срэбны медалі Алімпіяды. Так што "першы блін" не выйшаў камяком!

Нехта з выступоўцаў сказаў: "Алімпіяда — гэта свята!" Ну, а нам застаецца па-добраму пазайздросціць тым, у каго гэтае свята яшчэ толькі наперадзе, і ад душы пажадаць ім поспехаў!

**Таццяна СВЕТАШОВА,**
**выпускніца гімназіі № 1 Мінска, удзельніца Х Міжнароднай алімпіяды школьнікаў па рускай мове ў Маскве.**

*Міжнародны адукацыйны праект*

# "Артэк": педагагічная паэма



## Лабараторыя эксклюзіўных праграм

Ідэя правядзення міжнароднага конкурсу педагогаў у "Артэку" нарадзілася не выпадкова. Менавіта "Артэк" быў доўгі час інтэрнацыянальным домам для дзяцей. Спачатку — для кволых дзяцей з рабоча-сялянскіх сем'яў, а пасля — для нашай маладой савецкай эліты. Летніку ўжо 75 гадоў. І паміж "Артэкам" учарашнім і "Артэкам" сённяшнім — вялікая розніца. Але з мінулага засталося шмат чаго, што прыцягвае да яго зараз. Трапіць у "Артэк" было сапраўдным падарункам лёсу. Тут пабывала больш за мільён дзяцей розных нацыянальнасцей. Шмат хто і цяпер з гонарам гаворыць пра сваё дачыненне да яго. Геніяльная мастачка Надзя Рушава падзяліла жыццё на дзве паловы — да "Артэка" і пасля. Расійскі палітык Ірына Хакамада першы вопыт грамадскіх стасункаў атрымала менавіта тут. І акторка кіно Тацяна Догілева, і вядомы шахматыст Анатоль Карпаў, і легенда танца Махмуд Эсамбаеў лічаць час, праведзены ў "Артэку", самым яркім успамінам з дзяцінства.

Другое, чым прываблівае "Артэк", — гэта чароўная прырода. Ён размясціўся на ўнікальным месцы — урочышчы Хазар і атрымаў сваю назву ад грэчаскага слова "Ортэкі", што азначае перапёлка. Іх тут асабліва шмат восенню, калі яны збіраюцца з сіламі перад адлётам за мора. На пачатку XX стагоддзя ў гэтым месцы былі пабудаваны першы на паўднёвым узбярэжжы Крыма курорт. Гэта быў дарагі і элітны адпачынак, куды, што калі б не 1917 год, то ён стаў бы другім Маямі. Па ініцыятыве З.П.Салаўёва, старшыні Расійскага таварыства Чырвонага Крыжа, у 1925 годзе пачала ствараецца Усесаюзная эксперыментальная дзіцячая здраўніца "Артэк". Чорнае мора, горы (асаблівае суседства з Аю-Дагам) і паркі лечаць як арганізм, так і душу кожнага, хто сюды прыязджае. Дарэчы, паркі тут унікальныя, і дрэвы растуць вельмі каштоўныя, як, напрыклад, цыпланавае дрэва. На сёння "Артэк" займае плошчу каля 300 гектараў (100 з іх — паркі), уключае ў сябе 10 дзіцячых летнікаў — 5 пастаянных і 5 сезонных, гасцінічны комплекс, розныя службы. Працягласць пляжа складае сем з паловай кіламетраў.

Багацце "Артэка" — гэта яшчэ і яго людзі. Цяпер тут занята 1660 супрацоўнікаў (на лета запрашаюцца яшчэ каля 700). З іх 714 з'яўляюцца ветэранамі "Артэка". Сярод працаўнікоў "Артэка" шмат заслужаных — урачоў, настаўнікаў, работнікаў культуры, нават ёсць адзін заслужаны эканаміст. Кіраўніцтва летніка называе такіх супрацоўнікаў патрыётамі.



Міжнародны дзіцячы цэнтр "Артэк" уяўляе сабой лабараторыю, дзе распрацоўваюцца эксклюзіўныя сацыяльна-педагагічныя адукацыйныя і культурныя праграмы, а таксама тэхналогіі іх рэалізацыі. Назаву толькі тыя, у якіх прымаюць удзел беларусы, — Міжнародны конкурс педагогаў, Міжнародны дзіцячы кінафестываль, Міжнародны дзіцяча-юнацкі конкурс класічнага танца імя Ю.Грыгаровіча, Міжнародны аэракасмічны фестываль, Міжнародны дзіцячы харавы конкурс-фестываль.

Міжнароднаму конкурсу педагогаў — ужо пяць гадоў. Яго арганізатары прызналіся, што спачатку конкурс разглядаўся як вырашэнне асноўнай праблемы "Артэка" — нездавальняючага (асабліва ў міжсезонне) попыту на пуцёўкі. Па ўмовах конкурсу настаўнік павінен быў прыехаць на падсемінар са сваімі вучнямі (не менш як 20 дзяцей), а гэта значыць, выкупіць для іх пуцёўкі.

Хваляванняў наконт конкурсу яго задумшчыкам давялося перажыць шмат: конкурсы настаўнікаў праводзяцца ў многіх краінах былога Саюза — ці адгукнецца хто-небудзь на артэкаўскі? Калі так, дык ён павінны нечым адрознівацца ад астатніх, а менавіта — свабодай самавыяўлення. Ці не прыедуць у такім выпадку "слабыя" настаўнікі?.. Так атрымалася, што галоўная ўмова ўдзелу настаўніка стала лепшым тэстам. Педагогу павінны былі паверыць калегі, бацькі, фундатары.

Конкурс не толькі выжыў, але і развіўся. Ужо ў першы год (1996) сюды прыехалі настаўнікі, годныя высокага звання — міжнароднага ўзроўню. І сярод іх — наша з вамі зямлячка Алена Рыгораўна Гуляева, настаўніца музыкі са 170-й сярэдняй школы Мінска. Мы тады вельмі радаваліся яе перамозе. На другі год конкурс быў заўважаны сусветнай грамадскасцю — заняў першае месца на Усерасійскім конкурсе сярод лепшых праектаў у сферы міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне адукацыі і прызнаны ЮНЕСКА "Праектам XX стагоддзя".

У 1999 годзе педагогі, грамадскія дзеячы, вучоныя, якія мелі дачыненне да артэкаўскага конкурсу, аб'ядналіся ў міжнародную дабрачынную арганізацыю "Адукацыя без межаў". Яны выступаюць за ўмацаванне педагагічнага супрацоўніцтва ў рамках СНД і за яго межамі, а таксама садзейнічаюць працэсу дэмакратызацыі і гуманізацыі ў сферы адукацыі. З 2000 года да ўдзелу ў конкурсе пачалі запрашаць выкладчыкаў ВНУ (спецыялісты ў галіне гуманітарнай адукацыі), педагогі дадатковай адукацыі і педагогі дашкольных адукацыйных устаноў. Так, конкурс пашырыў свае межы, выйшаў у свет першы нумар часопіса "Адукацыя без межаў". Артэкаўскі конкурс — гэта адказ на запыты дня, калі сусветныя інтэграцыйныя працэсы патрабуюць адзіных стандартаў ацэнкі працы настаўніка і адукацыі.

Сёлета на юбілейны фінальны конкурс прыехалі пераможцы ўсіх папярэдніх гадоў — 22 педагогі. Яны правялі і для фіналістаў, і для артэкаўскіх настаўнікаў майстар-класы. Наша А.Р.Гуляева дзялілася вопытам работы па тэхналогіі развіццёвага навучання на ўроках музыкі.

У рамках фіналу прайшоў шэраг мерапрыемстваў — міжнародная выстава інавацыйнага педагагічнага вопыту "Бесперапынная адукацыя: ад ідэі да ўкаранення", прэзентацыя выдавецтваў педагагічных сродкаў інфармацыі і часопіса міжнароднай дабрачыннай арганізацыі "Адукацыя без межаў", міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Дыялог адукацыйных сістэм у сучасным свеце. Бесперапынная адукацыя: праблемы падрыхтоўкі спецыялістаў". Але галоўная падзея — гэта ўрокі фіналістаў конкурсу. На іх, як на тэатральных пастаноўках, збіраліся аншлагі, і часта ўрокі заканчваліся апладысментамі.

## Дваццаць хвілін на пераўвасабленне

У фінале Міжнароднага конкурсу педагогаў брала ўдзел 12 настаўнікаў. Яны былі рознымі па ўзросце, са званнямі — заслужаны, пераможца, лаўрэат — і зусім сціплыя — з вышэйшай катэгорыяй. Хтосьці прыехаў з вялікага Піцера, хтосьці — з мала каму вядомай мясціны — прыпынку Нова-Лабінская. Шкада толькі, што ў сёлетнім фінале не было беларусаў.

Урокі гэтых 12 лепшых выклікалі вялікую цікавасць, падчас іх правядзення збіралася поўная зала людзей — прэса, група падтрымкі, настаўнікі з артэкаўскай школы. Работу ацэньвала 15 членаў журы — з Літвы, Італіі, Польшчы, Украіны, Расіі, ЗША і наша з вамі суайчынніца — В.У.Бутькевіч, доктар педагагічных навук, прафесар БДПУ імя Танка. Зала ажыўлена рэагавала на тое, што адбывалася ў класе. Нават журы давялося пабываць у ролі ўдзельнікаў інтэрв'ю. Настаўніку было нялёгка, бо за кожным яго рухам і словам сачылі шмат уважлівых вачэй, аб'ектываў фотаапаратаў і відэакамеры.

Што такое фінальны ўрок? Гэта 20 хвілін узаемін з дзецьмі, з якімі ты знаёмішся тут жа. Самі члены журы прызнавалі, што гэта выходзіць за межы магчымага. Але многія канкурсанты здолелі зрабіць свой урок незабыўным.

Фінальныя ўрокі пачынала маладая настаўніца пачатковых класаў з Севастопаля Н.У.Іванова. Яна разам з дзецьмі адправілася на лужок, дзе раслі прыгожыя кветкі. Вучні сталі збіраць усе расліны, якія ім падабаліся. Пасля гэтага лужок ператварыўся ў голае месца. Трэцякласнікі спрабавалі разабрацца ў такім паняцці, як экалогія. Не скажу, што гэта было для іх лёгкай справай. Некаторыя ўявілі для сябе, што гэта навука забарон — прыроду чапаць нельга! Урок Наталлі Уладзіміраўны выратавала яе жаночая прыгажосць, а яна, як казаў некалі пісьменнік, выратуе і свет.

С.Д.Казлоў з Вялікіх Лук (Расія) на сваім уроку імкнуўся давесці дзевяцікласнікам, што матэматыка — навука карысная для паўсядзённага жыцця. Хочаш ты, напрыклад, пазначыць роўную перпендыкулярную лінію на сваім дачным участку, а прылад неабходных у цябе няма. Веданне пэўных законаў матэматыкі дапаможа табе скарыстаць звычайнае вядро ў якасці такой прылады.

Мне спадабаўся ўрок Л.Г.Далінцэ з Малдовы. І хоць я не ведаю англійскай мовы, але гэта не перашкодзіла. Лідзія Георгіеўна — прываблівая, добразычлівая настаўніца. Калі яна звярталася да дзяцей, то заўсёды ўсміхалася і злёгку дакраналася да кожнага. Яе ўрок нагадваў радыёмост: паміж дзецьмі з Кішынёва — і артэкаўскімі дзецьмі.

Не пашанцавала, на маю думку, крышку М.М.Дугрычылаву з Дагестана. У артэкаўскіх дзяцей не выкладаўся раней такі прадмет, як сусветная мастацкая культура. Таму клас было цяжка разгаварыць на тэму "Вытокі вечнасці". Але настаўнік усё ж зрабіў сваю справу — ён крануў сэрцы дзяцей.

На самы апошні ўрок фіналу усе, хто хацеў, не маглі патрапіць, бо маленькі камп'ютэрны кабінет іх проста не змясціў бы. То быў урок пераможцы, і мы яшчэ больш у тым пераканаліся, калі пасля заканчэння настаўнік, Аляксандр Барысавіч Фядосаў, выкладчык фізікі і інфарматыкі з Санкт-Пецярбурга, прааналізаваў свае дзеянні. Да яго ніхто не рабіў гэта так прафесійна. На сваім уроку ён прапанаваў 11 класу ўспомніць усё, што яны вывучалі за курс фізікі, структурыраваць свае веды. А затым здагадацца, якія з'явы і працэсы хаваюцца за тымі графікамі і дыяграмамі, што прапануе ім камп'ютэрная праграма, аўтарам якой з'яўляецца сам настаўнік. Трапна назваў А.Б.Фядосава адзін член журы — чалавекам абсалютнай усвядомленасці кожнага свайго руху. Можа гэта і прынесла яму перамогу.

Як жа дзейнічала на конкурсе журы? Яно выпрацавала адзіны падыход пры ацэньванні работы настаўніка. Можна назваць тры крытэрыі, якім надавалася большая ўвага — змест урока, метадычная падрыхтаванасць настаўніка і яго ўменне наладжваць кантакт з дзецьмі.

Зразумела, кожны суддзя журы параўноўваў удзельнікаў конкурсу з настаўнікамі сваёй краіны. І хоць у ЗША, Італіі, Літве падобныя конкурсы не праводзяцца (там лепшага настаўніка прызначаюць), усё ж сама ідэя такога мерапрыемства ім вельмі спадабалася.

Уладзімір Георгіевіч Маранцман — член-карэспандэнт Расійскай акадэміі адукацыі, доктар педагагічных навук, прафесар Расійскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Герцэна — чатыры гады запар сярод суддзяў артэкаўскага конкурсу. Ён прызнаецца, што такое "спаборніцтва" яму падабаецца тым, што тут збіраюцца розныя людзі — і віртуозы, і простыя настаўнікі. У гэтым вартасць конкурсу, бо адразу відаць спектар настаўніцкіх манер, звычак, тыпаў. Можна параўнаць конкурс з горным разрэзам — усе пласты праглядваюцца, і сярод іх знаходзяцца сапраўды ўнікальныя.

Уладзімір Георгіевіч нягледзячы на прафесарскае званне — настаўнік, які практыкуе, таму да ацэнкі працы калег ў яго свае падыходы. Настаўнік вызначае думку і падбірае пад яе сродкі. На погляд прафесара, паміж гэтымі двума дзеяннямі павінна быць гармонія. "Мне здаецца, што ў гэтым — майстэрства настаўніка і ступень яго адказнасці перад дзецьмі. Бо мы часам ставім галавакружныя мэты для дзяцей, з якімі маем справу. Увесь такт і чалавечнасць настаўніка ў тым, каб збудаваць лесвіцу перамагання перашкод. Іншая рэч, згодна якой я ацэньваю ўрок, — гэта крытэрыі канфліктнасці. Канфліктнасці таго, што ўяўлялі сабой вучні да ўрока і што яны здолелі пераадолець у сабе за яго хвіліны. Навучанне — гэта пераўвасабленне."

***

Артэкаўскі конкурс з мінулага года стаў запрашаць яшчэ і педагогаў ВНУ, і педагогаў дадатковай адукацыі. Каб спаборнічалі выкладчыкі вышэйшай школы — такога пакуль не існавала. Конкурс педагогаў праходзіць на базе Гуманітарнага інстытута "Артэк" і з'яўляецца часткай вучэбна-выхаваўчага працэсу ВНУ. Увесь багаж ведаў і вопыту, які прывозяць з сабой педагогі, застаецца ў "Артэку" і перадаецца студэнтам інстытута. Сярод дысцыплін, якія сталі тэмамі для спаборніцтваў, — курсы з вучэбнага плана Гуманітарнага інстытута: філасофія, сацыяльная педагогіка, псіхалогія, украінская і замежная культуры і г.д. "Артэк" першым паставіў пытанне — якім павінен быць сучасны педагог?



У двух падсемінарах удзельнічала 13 педагогаў з Крыма, Украіны, Расіі. Гэта — людзі не толькі цікавыя, але і патрэбныя для інстытута. У фінале іх засталося толькі пяцёра. Тут яны павінны былі паказаць сябе сапраўднымі Сакратамі, рыхтуючы выступленне для публічнай лекцыі. Лепшай стала расіянка Алена Анатольеўна Мясаедава, кандыдат педагагічных навук, дацэнт, намеснік загадчыка кафедры педагогікі Астраханскага дзяржаўнага універсітэта.

***

А наша беларуская група перажывала за Вольгу Міхайлаўну Мельнікаву. Так хацелася, каб адзіная беларуска на конкурсе ўвайшла ў спіс яго пераможцаў. Але ў Вольгі Міхайлаўны гэта яшчэ наперадзе. В.М.Мельнікава — даўняя знаёмая "Артэка", працавала тут некалі чатыры гады. Таму калі "Артэк" аб'явіў конкурс для педагогаў дадатковай адукацыі, настаўніца адразу атрымала запрашэнне.

Вольга Міхайлаўна жыве ў Жлобіне — горадзе лялек і, можа, таму яна кіруе студыяй лялек "Карцінкі" ў гарадскім цэнтры дзіцячай творчасці "Эўрыка". Калі яе выхаванцы даведаліся, што іх настаўніцу запрасілі ў "Артэк", сталі марыць пра гэтую паездку. Так што прыйшлося дзейнічаць — шукаць фундатараў, пераконваць бацькоў, рыхтаваць праграму. У "Артэк" разам з Вольгай Міхайлаўнай паехала дзевяць дзяцей. І двое заняткаў, і аўтарскі вечар не падаліся В.М.Мельнікавай такім ужо цяжкім выпрабаваннем. Але без хваляванняў не абышлося.

"Конкурс — гэта свята, — зазначае наша канкурсантка. — І яшчэ добрая праверка сваёй вартасці. Гэта жывая крыніца энергіі і тых творчых флюідаў, якія тут паўсюль. Конкурс дае магчымасць абмену думкамі і наталяе інфармацыйна-метадычны голад, які адчуваеш на месцы.

Жадаю ўсім чытачам "Настаўніцкай" уважліва сачыць за інфармацыяй пра конкурс педагогаў у "Артэку". Гатова дапамагчы, даць кансультацыю. Вельмі хочацца, каб на ім прагучала ўрачыста — Рэспубліка Беларусь!"



Мы таксама жадаем, каб яно гэтак сталася. Конкурс каштуе таго, каб у ім удзельнічаць. Ён можа даць настаўніку шмат чаго. Няшчасны той, хто бярэ ўдзел у ім толькі дзеля грошай — ён не адчуе ўсёй яго шматграннасці. Конкурс — гэта выпрабаванне сябе як педагога, абмен вопытам і навуковая лабараторыя, вялікая інфармацыйная база і прафесійная тусоўка. На цырымоніі ўручэння галоўных узнагарод конкурсу — залатых глобусаў — нехта слушна заўважыў, што спаборніцтва педагогаў у "Артэку" нясе ў сябе не меншую энергію, чым Чорнае мора.

## Журналісты і настаўнікі — калегі

Не магу я як журналіст абысці сваёй увагай прэзентацыю педагагічнай прэсы. Бо лічу, што прафесійныя СМІ толькі дапамагаюць нашым настаўнікам арыентавацца ў вялікім аб'ёме той інфармацыі, якая зараз абрынаецца на іх. Педагагічная прэса — гэта яшчэ і дарадчык настаўнікаў, і іх заступніца.

Прэзентацыю выдавецтваў педагагічнай прэсы адкрывалі гаспадары — украінскія журналісты. Пяць гадоў таму ва Украіне было створана унікальнае дзяржаўнае выдавецтва "Педагагічная прэса", заснавальнікам якой выступіла Міністэрства асветы і навукі Украіны. У гэта выдавецтва ўваходзяць — дзве газеты — "Асвета Украіны" і "Сельская школа" — і шаснаццаць каляровых тэматычных часопісаў. Газета "Асвета Украіны" даходзіць да кожнай школы. Яна — практычны дапаможнік для ўсіх настаўнікаў. Падчас прэзентацыі ўкраінскія журналісты знаёмілі з новым часопісам "Гуманітарныя навукі". Гэтае навукова-практычнае выданне скіравана на шырокую настаўніцка-педагагічную аўдыторыю. Яго выдаўцы лічаць, што яно будзе цікавым і карысным усім, хто хоча паглыбіцца ў сучасную філасофскую і педагагічна-псіхалагічную праблематыку.

На Украіне акрамя дзяржаўнай педагагічнай прэсы існуе яшчэ шмат прыватнай. І некаторыя з яе прадстаўнікоў таксама прыехалі на конкурс са сваімі праектамі. Напрыклад, прыватнае выдавецтва "Школьны свет" выпускае 17 педагагічных усеўкраінскіх газет — па ўсіх школьных прадметах. Галоўнае, на што зараз накіроўвае свой патэнцыял украінская педагагічная прэса — каб стаць для настаўніка дапаможнікам-метадыстам, паведаміць яму пра розныя псіхолага-педагагічныя тэхналогіі, тэсты, методыкі, наладзіць кантакты з аднадумцамі, а таксама абмен даследаваннямі і думкамі.

Расійскую прэсу прадстаўляў А.М.Кушнір, галоўны рэдактар грамадска-педагагічнага часопіса "Народная адукацыя". Ён падараваў удзельнікам мерапрыемства два часопісы: "Народная адукацыя" і "Школьныя тэхналогіі". Першы — знаёмы многім нашым настаўнікам, бо распачаў сваю дзейнасць у далёкім 1803 годзе і цяпер атрымаў новае жыццё. Мне ён падаўся вельмі цікавым, бо яго матэрыялы вымушаюць думаць, дзейнічаць, нешта мяняць. Часопіс "Школьныя тэхналогіі" — больш вузканакіраваны, яго мэта — расказаць настаўнікам пра тэхналагізацыю адукацыі.

Каб закончыць расказ пра прэзентацыю педагагічнай прэсы, трэба дадаць, што на конкурсе нарадзіўся свой часопіс — міжнародны, навукова-папулярны — пад назвай "Адукацыя без межаў". Яго заснавальнікамі выступілі МДЦ "Артэк" і міжнародная дабрачынная арганізацыя "Адукацыя без межаў". Удзельнікі конкурсу атрымалі першы нумар гэтага выдання. Выглядае яно дарагім — з выдатнымі фotaздымкамі, паліграфіяй, на добрай паперы і выканана па ўсіх правілах сучаснага дызайну. Плануецца, што ў часопісе будуць друкавацца толькі арыгінальныя матэрыялы, спецыяльна падрыхтаваныя для яго. У першым нумары аўтары выступілі пад такімі рубрыкамі — Міжнародны вопыт: сістэмы і мадэлі; Інавацыі: тэорыя і практыка; Пазашкольныя культурна-адукацыйныя ўстановы; Тэхналогія творчасці; Знаёмцеся: асоба.

На свяце нараджэння часопіса М.М.Сідорынка, генеральны дырэктар МДЦ "Артэк", член-карэспандэнт АПН Украіны, галоўны рэдактар часопіса, выказаў надзею, што выданне саслужыць добрую службу справе адукацыі і развіццю дыялогу сусветных сістэм адукацыі.

## Слова на дарогу

Усе гэтыя запісы рабіліся з адной мэтай — зацікавіць беларускіх педагогаў конкурсам. Я старалася, каб настаўнікі маглі паўней уявіць сабе атмасферу артэкаўскага мерапрыемства. Летні адпачынак — час для роздуму. Пазнаёмцеся ж з умовамі конкурсу, можа, менавіта вас і чакае славуты "Артэк".

***

Конкурс праходзіць з кастрычніка па май штогадова і падзяляецца на пяць падсемінараў — выбарачных тураў, роўных па працягласці артэкаўскай змене. Працоўнымі мовамі зацверджаны англійская, руская і ўкраінская. Фінал — у апошнія дні мая, калі збіраюцца Вялікае журы ды канкурсанты, якіх журы адабрала падчас падсемінараў.

Прыняць удзел у конкурсе можа любы настаўнік-практык. Дзеля гэтага яму трэба: знайсці магчымасць купіць дзіцячыя пуцёўкі ў Артэк (настаўнік павінен прывезці з сабой на падсемінар не менш як 10 дзяцей 3-11 класаў), прадставіць творчую працу на педагагічную тэму (асабісты вопыт, пошук шляхоў вырашэння педагагічных праблем і г.д.) і канспект аднаго з конкурсных урокаў, запоўніць і адправіць заяву-анкету.

Настаўнік-канкурсант праводзіць не менш як тры урокі — два са сваімі дзецьмі і адзін з дзецьмі артэкаўскай школы. Увесь неабходны матэрыял для ўрока ён прывозіць з сабой. На аўтарскім педагагічным вечары настаўнік павінен прадставіць свой педагагічны вопыт ці самастойна распрацаваную педагагічную праграму. Мэта вечара — паказаць сябе як асобу. Укласціся трэба ў 45 адведзеных хвілін.

Усе ўрокі і аўтарскія вечары настаўнікаў-канкурсантаў запісваюцца на відэакасеты. Журы ацэньвае ўрокі настаўніка, аўтарскі педагагічны вечар, творчую работу на педагагічную тэму.

МДЦ "Артэк" забяспечвае настаўнікаў-канкурсантаў месцамі ў гасцініцы і харчаваннем. Дзеці, якія прыязджаюць разам з настаўнікам, могуць прымаць удзел ва ўсіх мерапрыемствах, якія адбываюцца ў гэты час у "Артэку".

Для педагогаў дадатковай адукацыі і педагогаў вышэйшай школы ўмовы ўдзелу ў конкурсе іншыя. Пра іх можна даведацца ўжо непасрэдна ў дырэкцыі МДЦ "Артэк", а таксама — патэлефанаваўшы ў нашу газету.

Жадаю ўдачы!

**Святлана КІРСАНАВА.**

НА ЗДЫМКАХ: моманты з урокаў — Э.В.Гардзеева, настаўніца рускай мовы і літаратуры львоўскага ліцэя №1 Маскоўскай вобласці (Расія) і пераможца артэкаўскага конкурсу настаўнікаў 2001 года А.Б.Фядосаў, настаўнік фізікі і інфарматыкі гімназіі №293 Санкт-Пецярбурга (Расія); наша беларуская дэлегацыя (на жаль, не ў поўным складзе).

**Фота аўтара.**

